*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 29 (84)* *2 - 8 верасьня 1994 г.* *Кошт 30 рублёў*

*«Дні народнай трывогі» узьнікаюць тады, калі рэзка падае курс даляра* - ст. 3.

*К.Астрожскі заклікаў палкі да рашучай бітвы, усяляў веру ў перамогу* - ст. 4.

*Тут як тут - міліцыянты: «А адкуль у вас, хлопцы, такі сымпатычны маўзер?»* - ст. 8.

*Праграма тэлебачаньня на тыдзень: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург* - ст.6-7.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШКОЛА!

Першага верасьня рэспубліка адзначыла, па словах Прэзыдэнта Беларусі, "самае вялікае сьвята" - Дзень ведаў. Для сярэдняй школы N 20 гэты дзень быў знамянальны тым, што дваццаць гадоў таму яна ўпершыню гасьцінна разчыніла дзьверы. Урачыстую лінейку адкрыла дырэктар навучальнай установы А.Зылькова. З словамі віншаваньня і пажаданьнямі ўсяго самага лепшага да настаўнікаў, вучняў і іх бацькоў зьвярнулася настаўніца пачатковых класаў Г.Ціханчук. Потым старшакласьнікі паказалі тэатралізаванае прадстаўленьне, сэнс якога заключаўся ў вызваленьні Каралевы Ведаў ад недабразычліўцаў.

Прагучаў першы званок. І вучні адзінаццатых класаў пайшлі ў дзіцячы садок, каб павіншаваць першакласьнікаў з пачаткам навучальнага года. А астатнія навучэнцы школы пад акампанемент духавога аркестра разышліся па класах, каб зноў пачаць падарожжа ў цудоўную краіну Ведаў. Пажадаем ім посьпехаў на гэтым шляху.

А.ДУК.





У нядзелю 28 жніўня біскупам Гарадзенскай каталіцкай дыяцэзіі Аляксандрам Кашкевічам асьвечаны нядаўна атрыманы ў мікрараёне "Дзевятоўка" пляц пад будаўніцтва касьцёла. Новы храм Божы атрымаў назоў Найсьвяцейшага Збавіцеля.

Ужо зараз на месцы будучага храма дзейнічае капліца і устаноўлены сьвяты крыж, дзе могуць памаліцца вернікі.

Будавацца новы касьцёл Найсьвяцейшага Збавіцеля будзе на сродкі Гарадзенскай дыяцэзіі і ахвяраваньні вернікаў.

Г.АСТРОЎСКІ.

## НА РОВЭРАХ ПА СІЦЫЛІІ

У пятніцу, 2-га верасьня, у Горадні фінішуе 42-я многадзённая велагонка на прыз газеты "Фізкультурнік Беларусі". Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў аргкамітэце спаборніцтваў, перад заключным этапам лідэрства трымае ў асабістым заліку гарадзенец Андрэй Барадулін, у камандным першынстве напэрадзе таксама гоншчыкі Прынёманьня.

Велагонка магла быць больш цікавай і захапляючай, калі б у ёй сапраўды выступалі самыя мацнейшыя. Але якраз у гэтыя тэрміны на востраве Сіцылія (Італія) праходзіў чэмпіянат сьвету па веласпорту. І лепшыя велагоншчыкі зборнай Беларусі таксама прымалі там удзел. У скарбонцы нашай дружыны - толькі адзін бронзавы медаль, які ў групавым старце на трэку заваявала Людміла Гаражанская з Берасьця. Найлепшы вынік у спаборніцтвах шасейнікаў - дзевятае месца мужчынскай каманды на дыстанцыі 100 кіламэтраў. Дарэчы, у складзе чацьвёркі былі і два выхаванцы гарадзенскай дзіцяча-юнацкай школы Сяргей Кот і Сяргей Аутка.

Г.ВАСІЛЕВІЧ.

## ХЛЕБ БУДЗЕ. АЛЕ БОЛЬШАСЬЦІ БУДЗЕ НЕ ДА ПЕСЕНЬ

Сьпякотнае надвор'е ў канцы чэрвеня - пачатку жніўня адмоўна паўплывала на ўраджай. Калі летась ён па збожжавых склаў на Гарадзеншчыне ў сярэднім 39 цэнтнераў з гектара, то сёлета - толькі 29. Але ж насельніцтва не застанецца без жытняга хлеба, пэўныя цяжкасьці могуць быць толькі з белым. Праблематычнай уяўляецца нарыхтоўка бульбы. Сёлітняя яе ўраджайнасьць - 90 цэнтнераў з гектара (летась - 189 цэнтнераў). На думку начальніка сяльгасупраўленьня Гарадзенскага аблвыканкама Ў.Рудзячэнка, калі ўрад рэспублікі не падвысіць закупачную цану на яе з 130 рублёў да рыначнай, якая зараз складае новы менш 500 рублёў, то бульба можа стаць дэфіцытам.

Пад пытаньнем таксама нарыхтоўка іншай гароднiны. Дагэтуль урад не выдзяліў з неабходных для яе правядзеньня 42 мільярдаў рублёў ніводнага.

С.РЭЎКА.

## ПАЧАТАЕ СКАРЫНАЙ

Упраўленьне культуры аблвыканкаму, Дзяржаўны універсітэт імя Я.Купалы, абласная бібліятэка імя Я.Карскага, гарадзкая Рада таварыства беларускай мовы наладзілі навукова-практычную канферэнцыю "Станаўленьне пісьменства і кнігадрукаваньня на Беларусі", якая прайшла ў зале паседжаньняў абласной бібліятэкі. З дакладам "Першыя помнікі пісьменства на Беларусі" выступіла дактарант інстытута гісторыі АН Беларусі Сьвятлана Палуцкая. Даклад пра дзейнасьць нашага першадрукара Францыска Скарыны зрабіў прафесар Аляксей Мікалаевіч Пяткевіч. Пра гісторыю Базыльянскага кнігадрукаваньня на Беларусі зрабіў паведамленьне старэйшы навуковы супрацоўнік музея гісторыі рэлігіі спадар Сяргей Казуля. Ён засяродзіў ўвагу на чатырох вуніяцкіх друкарнях, што мясьціліся ў Вільні, Жыровічах, Менску і Супрасьлі.

Помнікам кірылічнага пісьма Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея было прысьвечана выступленьне Л.К.Таран - загадчыка аддзела гісторыі ГрДГАМ.

Зьмястоўным было 15-хвілiннае паведамленьне дацэнта кафедры гісторыі Беларусі ГрДУ С.Сяльвестравай на тэму "Кніжная справа на Гарадзеншчыне ў XIX-XX стагоддзі".

Дырэктар абласнога аб'яднаньня "Кніга" давёў прысутным, што сёлета дзяржаўныя выдавецтвы выдалі прыкладна толькі 10% ад агульнай колькасьці выдаваемых кніжак на Беларусі. І толькі 20% ад гэтай лічбы на дзяржаўнай мове.

Заключнае слова трымала намесьніца дырэктара абласной бібліятэкі Л.Мальцава. Спадарыня Мальцава паведаміла, што на Гарадзеншчыне працуе 812 бібліятэк, 17 раённых, 44 гарадзкіх, 712 сельскіх, 39 дзіцячых і адна абласная. Сум выклікала і інфармацыя аб тым, што на 35 тысяч чытачоў у Горадні сёлета паступіла ў бібліятэкі горада толькі чатыры з паловай тысячы кніжак на беларускай мове. На гэтым канфэрэнцыя і спыніла сваю працу, але сьвята, распачатае ў Зэльве ўшанаваньнем сьвятой памяці Л.Геніюш, працягваецца. Штодня ў Старым замку працуе выстава пад назовам "Пачатае Скарынай". Навукоўцаў і кнігааматараў чакаюць прэс-канфэрэнцыі, кніжныя выставы, чытальныя залы.

Г.АСТРОЎСКІ.

## ЛЕЎ САПЕГА ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў ГОРАДНІ

**У Горадні на мінулым тыдні адбылася прэзэнтацыя абласной філіі фонда Льва Сапегі. Асноўныя мэты фонду накіраваныя на аб'яднаньне намаганьняў дэпутатаў, навукоўцаў, бізнэсмэнаў дзеля рэфармаваньня сістэмы мясцовых органаў улады.**

Як лічаць прадстаўнікі фонду, насьпеўшыя ў краіне рэформы неабходна пачынаць на мясцовым узроўні. Як аргумэнт сваім сьцьвярджэньням неаднойчы прыводзіліся прыклады суседніх краін: Польшчы, Летувы, Расеі, дзе ў гэтым накірунку ўжо шмат зроблена. На жаль, беларускі ўрад не заўважае дзейнасьці фонда.

Аднак, нягледзячы на такую няўвагу да сябе, супрацоўнікі фонду настроеныя на будучае аптымістычна, паколькі перакананы ў непазьбежнасьці такога рэфармаваньня. Гарадзенская абласная філія ўжо зараз спрабуе наладзіць работу ў раённых цэнтрах. Хутка плануецца адкрыцьцё філій у Ваўкавыску, Лідзе і Смаргоні.

Праўда, як на абласным так і на раённым ўзроўні мясцовае начальства, на думку прадстаўнікоў фонду, не зацікаўлена ў рэфармаваньні сістэмы улады. Хаця сёньня для ўсіх відавочна, што існуючая сістэма мясцовага самакіраваньня стрымвае ўсе дэмакратычныя працэсы ў грамадзтве. Старая бальшавіцкая сістэма Саветаў, склаўшаяся за 70 гадоў, не дазваляе па-сапраўднаму быць гаспадарамі нават тым самым кіраўнікам вобласьці і раёна.

Трэба думаць, гледзячы на сучасную палітыку прэзыдэнта і яго акружэньня, што такія рэформы ў нас пойдуць яшчэ не хутка, паколькі плануемае скарачэньне апарату сістэмы не зьменіць.

М.КАРНЕВІЧ.

# БАРОНІЦЬ, РАТУЕ, ДАПАМАГАЕ

**Добра вядома, што ніводная арганізацыя ці то грамадзка-палітычны рух, ці партыя ня могуць трывала і з посьпехам дзейнічаць і нават проста існаваць без фінансавай падтрымкі. Адных сяброўскіх складак вельмі недастаткова. І таму заўсёды гэткія арганізацыі атрымліваюць ад сваіх больш заможных і патрыятычных грамадзян, ад прадпрымальнікаў і камерсантаў добраахвотныя грашовыя ахвяраваньні, ці як зараз прынята казаць - спонсарскую падтрымку.**

**Да такіх арганізацый належыць грамадзка-палітычны рух Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і партыя БНФ, якія ніколі не займаліся і не займаюцца камерцыйнай і прадпрымальніцкай дзейнасьцю. Крыніца фінансавай падтрымкі - адвольныя складкі сяброў БНФ і дабраахвотныя ахвяраваньні сьвядомых, з пачуцьцём беларускай годнасьці грамадзян і сучасных прадпрымальнікаў.**

Гарадзенская Рада БНФ, сядзіба якой знаходзіцца па вуліцы Савецкай,10, мае ва ўпраўленьні Белбізнэсбанка ў Горадні свой разьліковы рахунак за нумарам 100700015. На гэты рахунак да нас і прыходзяць грошы, якія нам вельмі патрэбныя. Гэта аплата паперы і друкаваньня нашых улётак і плакатаў, аплата арэнды памяшканьняў для правядзеньня канферэнцый і сустрэч з кіраўніцтвам БНФ, гэта аплата паліва для аўтамабіля, калі неабходна зьезьдзіць да Менску ў камандзіроўку ці па іншых справах, аплата выдаткаў пры сьвяткаваньні нашых беларускіх сьвят.

І таму ад імя Гарадзенскай Рады БНФ, ад усіх сяброў БНФ і яго прыхільнікаў мы выказваем праз нашу газету "Пагоня" вялікі дзякуй спадарам Сямашка, Пыжэўскаму, Корчыц, Галюкевічу і іншым, некаторым прадпрымальнікам (бяз іх згоды не называем фірмы) за іх значныя грашовыя ахвяраваньні на карысьць БНФ.

Асабліва ўразіў усіх нас выпадак, калі сёлета вясной да наладжанага БНФ пікету зьвярнуўся малады мужчына і сказаў:

- Я беларус, гарадзенец, працую ў адным балтыйскім параходстве. Вы робіце вялікую сьвятую справу і на гэта грошай не шкада, - і паклаў на наш стол дваццаць (!) даляраў ЗША. Гэта не прапагандысцкі заход -даляры апрыходаваны ў нашу касу актам. Падобныя факты сьведчаць аб тым, што ўсё больш і больш беларусаў цікавяцца і ганарацца сваёй багацейшай і адметнай мінуўшчынай, робяцца сьвядомымі і прыходзяць да высновы, што толькі Беларускі Народны Фронт прывядзе дзяржаву да лепшай будучыні, да сапраўднага росквіту.

Бо БНФ ЗМАГАЕЦЦА за тое, каб кожны грамадзянін Беларусі жыў заможна, годна чалавечаму прызначэньню ў вольнай і незалежнай эўрапейскай дзяржаве.

Бо БНФ АХОЎВАЕ нацыю ад духоўнага занепаду, ад гістарычнага бяспамяцтва. Каб беларусы не пертварыліся ў "Іванаў, радства ня помнячых", ахоўвае і зьберагае галоўнае - гістарычную памяць нацыі.

Бо БНФ АБАРАНЯЕ як можа наш народ і нашу Беларусь ад бязмежнага і безкантрольнага рабаваньня і сваімі наменклатурнымі хаўрусьнікамі, і ўсялякімі "братамі". Гэта БНФ распрацаваў і прапанаваў яшчэ ў пачатку 1993 года закон аб карупцыі і з такім зацятым імпэтам быў адхілены наменклатурнай большасьцю ў ВС РБ .

Хачу зьвярнуцца да ўсіх гарадзенцаў, асабліва да нашых прадпрымальнікаў і камерсантаў. Бізнэс у першую чаргу павінен быць нацыянальным, так бы мовіць, патрыятычным: усё рабіць на карысьць дзяржавы, свайго народа.БНФ з самага пачатку змагаўся за разумовае, навукова абгрунтаванае стаўленьне да малога і сярэдняга бізнэсу, аб яго дзяржаўнай падтрымцы. Усе гэтыя намеры і палажэньні запісаны ў нашых праграмных дакументах.

Неўзабаве павінны адбыцца датэрміновыя (як абяцаў прэзыдэнт, недзе напрыканцы года) перавыбары бэсэсэраўскага партнаменклатурнага Вярхоўнага Савета. Гэта, у рэшце рэшт, па-першае, скасуе ганебнае і абсурднае становішча, калі новай дзяржавай амаль пяць гадоў кіруе старая пракамуністычная ўлада (і злачынна прывяла ў бездань эканамічнага крызісу квітнеючую некалі рэспубліку). Па-другое, у новы Вярхоўны Савет павінны прыйсьці новыя людзі з новым сучасным мысьленьнем, сапраўдныя патрыёты гэтага шматпакутлівага народа і зямлі, якія хутчэй і з большай адказнасьцю будуць праводзіць насьпелыя рэформы на карысьць свайго народа.

У гэты адказны момант БНФ будзе выluчаць сваіх кандыдатаў на выбары ўсіх узроўняў. Але для пасьпяховага правядзеньня перадвыбарчай кампаніі патрэбна значная фінансавая падтрымка. І мы спадзяемся ў гэты адказны для Беларусі час на больш актыўную фінансавую падтрымку Фронту з боку паважаных гарадзенцаў, прадпрымальнікаў і прадстаўнікоў камерцыйных структур.

Шаноўнае спадарства! Калі вам нязручна зрабіць пералік грошай на наш рахунак у Белбізнэсбанку, то можна нам затэлефанаваць(тэл.45-41-83) альбо прыйсьці да нас у штаб-кватэру і здаць свой адвольны ўзнос і больш дэталёва пазнаёміцца з дзейнасьцю Народнага фронта. Кожны аўторак а гадзіне 18.30 можна прысутнічаць на паседжаньнях Гарадзенскай Рады БНФ. Шчыра запрашаем!

Насуперак усім перашкодам Беларускі народны фронт бароніць, ратуе, дапамагае!

**Яўген КУХТА,**
**сябра Гарадзенскай Рады БНФ.**

Ганарар прашу пералічыць на рахунак Народнага Фронта N100700015 ва ўпраўленьні Белбізнэсбанка г.Гродна

# ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ ДЗЕЙНІЧАЕ

23-га жніўня пад кіраўніцтвам З.Пазьняка адбылося чарговае пасяджэньне Ценявога Кабінета Міністраў апазіцыі БНФ. Пасьля абмену думкамі і інфармацыяй аб падзеях у краіне сябры Кабінета прыступілі да абмеркаваньня першага ў Беларусі закона "Аб нетрах", падрыхтаванага членамі і прыхільнікамі Кабінета. Дакладчык, член-карэспандэнт Міжнароднай інжэнэрнай акадэміі, доктар геолага-мінералагічных навук В.Масквіч. Мэтай закона з'яўляецца цывілізаванае рэгуляваньне адносін паміж дзяржавай і карыстальнікамі ва ўмовах пошуку, разведкі, распрацоўкі карысных выкапняў; рацыянальнае выкарыстаньне нетраў і акрамя таго ахова іх і навакольнага асяроддзя. У абмеркаваньні закона прынялі ўдзел Ю.Хадыка, Ю.Беленькі, У.Заблоцкі, В.Чуйко, Л.Баршчэўскі і іншыя члены Кабінета. Пасьля юрыдычнай дапрацоўкі, паартыкульнага абмеркаваньня спецыялістамі і рэдакцыйных паправак Закон будзе падрыхтаваны для прыняцьця Кабінетам.

Другім пытаньнем быў разгляд канцэпцыі апазіцыйнага ўрада ў галіне аховы здароўя насельніцтва Беларусі і структуры адпаведнага Міністэрства. Актуальнасьць гэтай праблемы, асабліва ва ўмовах высокай радыяцыйнай забруджанасьці ў выніку Чарнобыльскай аварыі, не выклікае сумненьня і патрабуе стварэньня Нацыянальнай праграмы здароўя. У той час, як у Расеі і рэспубліках Прыбалтыкі ажыцьцяўляецца пераход на страхавую медыцыну, наша дзеючае кіраўніцтва імкнецца да адміністратыўна-дзяржаўнага яе фінансаваньня. На думку Міністра аховы здароўя Ценявога Кабінета народнага дэпутата А.Шута, неабходна выдзяленьне на гэтыя патрэбы не менш 10 працэнтаў нацыянальнага дахода. Трэба пераходзіць на сістэму сацыяльнага страхаваньня, уводзіць прыватную практыку, напрыклад, сямейнага ўрача, з выкарыстаньнем ільготнага падаткаабкладаньня. Прапануецца аб'яднаньне міністэрстваў аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэньня ў агульнае Міністэрства сацыяльных спраў.

У раздзеле "Рознае" абмяркоўвалася пытаньне аб скліканьні Беларускім Народным Фронтам міжнароднай канфэрэнцыі па праблемах паліўна-энергетычнага крызіса з удзелам Украіны, Летувы, Латвіі, запрошаны Польшча, Малдова, Чэхія.

На наступным пасяджэньні будзе заслуханы і абмеркаваны даклад акадэміка АН Беларусі І.Нікітчанкі аб доўгатрывалых наступствах Чарнобыльскай аварыі, разгледжана пытаньне развіцця фізічнай культуры і спорту, а таксама нататкі да стварэньня інфармацыйнай праграмы Беларусі. Рыхтуецца для абмеркаваньня Закон "Аб друку". У перспектыве плануецца заслухаць даклад прафесара У.Тарасава аб эканамічным стане дзяржавы.

**Сьвятлана БЕЛЬСКАЯ.**



# ЗВАРОТ

## ДА ВЕТЭРАНАЎ ГОРАДА ГОРАДНІ І ВОБЛАСЬЦІ

15 чэрвеня 1994 года выканаўчы камітэт Гарадзенскага гарадзкога Савета дэпутатаў зарэгістраваў Дэмакратычнае аб'яднаньне ветэранаў г.Горадні, якое з'яўляецца добраахвотнай грамадзкай непалітычнай арганізацыяй і складаецца з ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сілаў, ахвяраў палітычных рэпрэсій.

Аб'яднаньне ставіць перад сабой наступныя мэты:

- клапаціцца аб сацыяльна-эканамічных і асабістых правах ветэранаў з мэтай паляпшэньня іх матэрыяльнага становішча, жыльлёвых умоў, медыцынскага і іншых відаў абслугоўваньня ўсіх і асабліва адзінокіх ветэранаў;
- удзельнічаць у грамадзкім жыцьці рэспублікі, займацца выхаваньнем у моладзі нацыянальнай сьвядомасьці, пачуцьця гонару за свой народ;
- умацоўваць дзяржаўны суверэнітэт, палітычную і эканамічную незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, абараняць і ахоўваць нашу нацыянальную сімволіку: Бел-чырвона-белы сьцяг і славуты герб - Пагоню;
- падтрымліваць сувязі з ветэранскімі арганізацыямі іншых гарадоў і вобласьцей рэспублікі, і іншых краін.

Заклікаем ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сілаў, ахвяр палітычных рэпрэсій г.Горадні і вобласьці, якіх непакоіць свой лёс, лёс іх дарагіх нашчадкаў, лёс нашае Бацькаўшчыны супрацоўнічаць з намі. Калі вы жадаеце ўвайсьці ў нашу арганізацыю, пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, вул.Савецкая,10, пакой 1а, альбо зьвяртайцеся непасрэдна да сяброў Рады кожную сераду з 12.00 да 17.00, тэлефануйце 45-45-01 з 10 да 17 (кожны дзень акрамя нядзелі).

У нас вы зможаце атрымаць Статут і Праграмную заяву Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Горадні. Мы просім дапамагчы нам у стварэньні фонду, які будзе выкарыстоўвацца ў мэтах міласэрднасьці.

Паведамляем нумар рахунку: 700403, Упраўленьне Белбізнэсбанка па Гарадзенскай вобласьці , код 152101705.

**Рада Дэмакратычнага аб'яднаньня**
**ветэранаў г.Горадні.**

# У ВАЙНУ ГУЛЯЛІ ЎСЕ

"Фашызму ў нас няма", - заявіў начальнік КДБ Беларусі Ўл.Ягораў. Справа ў тым, што рэдактар "Новай Народнай газеты" Натальля Машэрава атрымала ліст з пагрозамі ад малавядомай арганізацыі "Правы рэванш". Пры праверцы высьветлілася, што ў арганізацыі ўсе непаўналетнія хлапчукі, якія захацелі пагуляць у вайну. На што шэф КДБ заявіў так: "Хіба ж мы ў дзяцінстве не гулялі ў такія гульні?"

Але Натальля Машэрава і лідэр Народнага руху Беларусі Сяргей Гайдукевіч ня згодны з высновай Ул.Ягорава і ў сваёй газеце надрукавалі заяву, у якой сьцьвярджаюць, што на Беларусі квітнее фашызм. Не называючы прозьвішчаў аўтараў нататкі Ўл.Ягораў згадаў: "Гэтыя лідэры, як яны сябе называюць, перш чым друкаваць такія заявы, лепш бы зьвярнуліся да КДБ ці Пракуратуры."

**У.ВОЙНА.**

# КСЁНДЗ АНАТОЛЬ: «Я ЗНАЙШОЎ СВАЮ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКУ»

**Памятаю, як гады два таму ў Малой Базыліцы - Фарным касьцёле Горадні - 150-200 вернікаў упершыню слухалі сьвятую імшу на беларускай мове. Вёў службу малады ксёндз Анатоль Маркоўскі.**



Шчыры прыхільнік беларушчыны, ён нарадзіўся на беларуска-летувіскім памежжы. Паколькі бацькі былі запісаны палякамі, то і Анатоль па нацыянальнасьці паляк. На яго дзіцячае дзіва ніхто ў роднай вёсцы не размаўляў па-польску. Мова была звычайнай, тутэйшай. Так здарылася, што сям'я жыла на Летуве, а да храма Божага хадзіла на Беларусь. Прыход знаходзіўся ў Астравецкім раёне Гарадзеншчыны. Можа гэта й адыграла рашаючую ролю ў любові да беларушчыны й Беларусі. Ня ведаю дакладна калі, але Анатоль яшчэ дзесьці ў школьныя гады вырашыў, што абавязкова будзе працаваць на Беларусі. Першым месцам працы быў Іўеўскі касьцёл. Там пасьля школы юнак Маркоўскі працаваў арганістам й адначасова зарабляў працоўны стаж, каб паступіць у Рызскую духоўную каталіцкую акадэмію. На жаль, мара не зьдзейсьнілася, бо тады існаваў закон, што тыя, хто жадае прысьвяціць сваё жыцьцё служэ Богу, павінны мець даведку-дазвол ад упаўнаважанага па справах рэлігіі. Спачатку было паабяцана, што і арганіст Іўеўскага касьцёлу атрымае такую даведку. Выйшла наадварот - яго выклікалі да Горадні й наўзамен даведкі далі вусны загад на працягу сутак пакінуць Беларусь. Так ён наноў апынуўся на Летуве. Папрацаваў у касьцёле бліз Вільні да лета й затым пасьпяхова вытрымаў іспыты ў Ковеньскай вышэйшай каталіцкай школе. З 1985 года па 1991 год студыяваў тэалогію. Абараніўшы дыплом, ізноў папрасіў накіраваньне на Беларусь. Просьбу задаволілі і ў 1991 годзе тут у Горадні ў Фарным касьцёле Анатоль быў рукапакладзены й высьвечаны на ксяндза Біскупам Аляксандрам Кашкевічам. З часу высьвячэньня працуе ў Фарным касьцёле.

Прыхільнасьць і нейкая духоўная патрэба зьблізілі з гарадзенскімі беларусамі-каталікамі. Жаданьне пачуць слова Божае на роднай мове ў гэтых людзей было невымяральным. Параіліся, зьвярнуліся да Біскупа Кашкевіча і атрымалі дазвол: штонядзелю, а 15-ай гадзіне служыць імшу на беларускай мове. На першую ж імшу прыйшло чалавек 150-200. Калі чыталася пропаведзь, назіраў за паводзінамі прыхажан. Ведаеце, ад іх струменілася такая дабразычлівасьць,цеплыня.Сталае жаданьне прыходзіць на беларускую імшу даволі вялікага гурту вернікаў становіча ацаніў і ў Гарадзенскай дыяцэзіі. Да імшы далучылі яшчэ аднога ксяндза. Хору старажытнай духоўнай музыкі дазволілі сваімі сьпевамі суправаджаць беларускамоўную імшу.

Прыкладна два гады рэгулярна гучыць беларускае слова ў касьцёле. Можа гэта каму й не даспадобы, але для А.Маркоўскага, чалавека-сьвятара, які паставіў сабе за мэту служыць Беларусі – беларуская імша – зьдзяйсьненьне жыцьцёвых мараў. Але яму мала,калі толькі адна мара спраўдзілася, і ксёндз Анатоль Маркоўскі працягвае рабіць дабро, узяўшы на сябе дадатковы цяжар, стаўшы віцэ-прэзыдэнтам міжнароднай дабрачыннай каталіцкай арганізацыі "Карытас". Але, хоць дабрачыннасьць і аднімае шмат часу, беларускую справу ня кідае й надалей застаецца дарадцам, духоўным айцом тых беларусаў, якія любяць Бацькаўшчыну, яе традыцыі, мову, культуру. І гэта ён яшчэ раз зразумеў нядаўна, калі ў Горадні гасьцявала матуля. Яна так выдатна размаўляла на беларускай мове, зьвяўляючыся па пашпарту полькай, што Анатолю падалося, быццам тут на Гарадзеншчыне ён знайшоў тое, што шукаў увесь гэты час – сваю папарацъ-кветку.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# УЖО НЯ ХОБІ, АЛЕ ЯШЧЭ Й НЕ ПРАФЕСІЯ

**Іншамарка ліха падкаціла да пункту па скупцы-продажу валюты, што месьціцца на перакрыжаваньні вуліц Дамініканскай й Савецкай ў Горадні. Крутыя юнакі, што нібыта ланцуг апаясалі шапік, хуценька падскочылі да легкавіка. На сьвет зьявіўся паліэтыленавы мех, набіты беларускімі рублямі. Распіхаўшы пачкі "зайчыкаў" па кішэнях хлопцы наноў занялі свае месцы, апытваючы кожнага прахожага прыкладна так: "доллары, марки, русские рубли, покупаем выше, чем платит банк."**

Убачыўшы такі малюнак, успомнілася, як адзін знаёмы, пасьля атрыманьня сынам атэстату сталасьці доўга намаўляў дзіця пайсьці вучыцца далей. Сын маўкліва слухаў бацьку й гаварыў сваё: "Віця й Алег, што пакінулі школу летась, "працавалі" год пад пунктамі скупкі-продажу зялёных, цяпер яны маюць "бабкі", могуць запрасіць дзяўчыну на дыскатэку, у рэстаран, купіць ёй каштоўны прэзэнт. Што змагу на стыпендыю купіць я?"

Каб мець належнае ўяўленьне аб працы скупшчыка валюты й яго прыбыткі, карэспандэнт "Пагоні", папрацаваў колькі часу ля валютнага шапіка.

Па-першае, аматарства тут не падыходзіць, бо цябе ніхто не чакае каля гэтага прыбытковага месца. Доўга саматуж не пратрымаешся. Найперш папярэдзяць, што тут для такіх як ты няма месца. Не слухаеш, хутка падрэжуць крылы. Увайсьці да суполкі вельмі цяжка. Але працаваць яшчэ цяжэй, бо грошы, як я заўважыў, - гэта такая спакуса, што стрымацца й не застаўляць хоць што колькі сабе проста немагчыма. Зрабіць такое складана. За табой увесь час назіраюць.

У Горадні некалькі добра зарганізаваных групаў, якія фактычна фільтруюць усю прыватную скупку й продаж валюты. Канкурэнцыя між імі вялікая. Як высьветлілася, нельга адначасова працаваць на некалькі групаў. Чуў, як хлопцы распытвалі адзін другога пра заробкі, пра тое, як старэйшы брат аднаго з іх гандлюе зялёнымі патаемна. Менавіта ён запрапанаваў вось так працаваць. Скардзіліся, што праца нялёгкая. Паспрабуйце зімовым холадам ці летняй сьпякотай пастаяць па 12-14 гадзін на вуліцы. А многія прастаялі больш аднаго года. Пакуль што гэта іх задавальнене. "Маладыя" атрымоўваюць 4 працэнты ад дзённага прыбытку, "ветэраны" - да 10 працэнтаў. Ёсьць тут і свае размежаваньні. 10 працэнтаў - гэта фактычна найвышэйшая шкала. Два, тры чалавекі - на самым версе гэтай валютнай піраміды сярод скупшчыкаў. Некаторыя зарабляюць па 5-6 працэнтаў і яны задаволены. Ёсьць людзі, якім плацяць па 8 працэнтаў. Усё залежыць ад асабістых сувязяў, асабістых сімпатый, асабістых здольнасьцяў дамовіцца з босам.

Працоўны дзень на дзень не прыходзіцца. У сярэднім можна купіць 400-600 даляраў. Ёсьць выключныя дні, іх называюць тут днямі народнай трывогі. Узьнікаюць яны тады, калі рэзка падае курс даляра. Людзі сьпяшаюць іх прадаць. Але такія ўзьлёты-падзеньні ўсё больш і больш рэдкія. Народ разумнее і хітрыкі з падзеньнем курсу ўжо амаль не праходзяць. Можа калі на тэрыторы Беларусі адзіным плацёжным сродкам зробіцца разьліковы білет, вось тады чакай напльву.

Скупленую валюту здаваць трэба каралю. І гэта ўжо яго праблемы - вырашаць, што з ёю рабіць. Так што галоўнае - мець даляры ў кішэні і яны вырашаць усе твае праблемы.

А мяняць месца працы большасьць пакуль не зьбіраецца, бо для іх гэта ўжо ня хобі, але яшчэ і не прафесія.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

# ПЕРАКУПШЧЫКІ-КАМЕРСАНТЫ ЗДАЮЦЬ ПАЗЫЦЫІ

**Яшчэ нядаўна гарадзенскія фірмы, што працуюць па прынцыпу купі-прадай працавалі на поўную магутнасьць. Сёньня большасьць такіх фірмаў замарожваюць свае рахункі ў банках. Аб праблемах, што ўзьніклі перад такімі фірмамі,для чытачоў "Пагоні" ў сваіх нататках распавядае дырэктар зьнешнегандлёвай фірмы "Арніка" спадар Юры Селюжыцкі.**

Такая праблема вельмі надзённа стаіць перад камэрсантамі, якія ў пагоні за хуткімі грашыма засяродзілі галоўную ўвагу на перапродажы гатовай прадукцыі. Так, яны здабылі свае мільёны, якія зьелі інфляцыя і непамерныя падаткі. Гараваць тут ня варта, бо той камэрсант, што заснаваў фірму, як сродак нажывы, павінен быў ведаць, што такі бізнэс кароткачасовы. Як пра прыклад, хачу расказаць пра сваю фірму. Найперш і мы вазілі з Польшчы, Вугоршчыны, Балгарыі кансерваваную садавіну і гародніну. Прадавалі тавар беларускім дзяржаўным прадпрыемствам гандлю. Прыбытак налічваў дзесяткі мільёнаў беларускіх рублёў. І так працягвалася гады два. Калі ж у гэтых краінах пачалася стабілізацыя эканомікі й зьявілася добраразьвітая сетка дылерскіх фірмаў, нам стала цесна на рынках краін блізкага замежжа. Каб не збанкрутаваць, я прыйшоў да высновы, што неабходна наладзіць вытворчасьць. Зараз фірма "Арніка" - гэта два МП па вырабу кухоннай і дачнай мэблі, а таксама брыгада будаўнікоў-рамонтнікаў. Хто своечасова не зрабіў патрэбнай рэарганізацыі, зараз перажывае ня лепшыя дні. І становішча будзе горшыцца, бо беларускія дзяржаўныя прадпрыемтсвы, якія задавальнялі патрабаваньні мясцовых бізнэсмэнаў-фарцоўшчыкаў, пачалі ахвотней працаваць з разнастайнымі пасярэдніцкімі фірмамі ў блізкім і далёкім замежжы.Быў час,калі сярод камэрсантаў Горадні вельмі паважалася слонімская фабрыка "Тэкстыльшчык" і цэх мяккай гасьцінай мэблі Пінскага вытворчага дрэвапрацоўчага аб'яднаньня. Ведаю, што гэтыя дзяржаўныя ўстановы задавальнялі попыт многіх гарадзенскіх фірмаў. Назвы іх я ня буду называць. Таямніцы тут ніякай, але мае калегі могуць сердаваць на мяне. У сваю чаргу мэбля з дзяржаўных прадпрыемстваў трапляла ў Расею, а грошы за яе рэалізацыю асядалі на рахунках прыватных фірмаў. Доўжыцца такое становішча, на мой погляд, не магло бязконца. Дзяржпрадпрыемствы пачалі працаваць напрамую ці праз дылераў са спажыўцамі. Таму цэлы шэраг фірмаў Горадні апынуўся без справы.Выснова простая: дылер разьмяшчае на прадпрыемстве вялікую замову, не памеры ў фінансавых адносінах налічваюць мільярды. Менавіта так здарылася з фабрыкай "Тэкстыльшчык", якая атрымала мільярдныя замовы ад гандлёвых прадпрыемтсваў Расеі. Сланімчане ледзь-ледзь пасьпяваюць выконваць замовы. Адгрузка прыватным фірмам поўнасьцю спынена. Хоць паміж фабрыкай і фірмай існуюць пагадненьні аб супрацоўніцтве. Уважлівы чытач можа згадаць, што дзяржпрадпрыемствы парушаюць дамовы.

Яно так, але спагнаньняў за гэта не панясуць, бо няма закону аб абароне інтарэсаў камерсанта. Прадпрыемствы адчуваюць сябе ў такіх умовах як рыба ў вадзе. Што ім дзесяць-дваццаць мільёнаў ад прыватніка, калі побач мільярды. Асабіста я разумею адміністрацыі фабрык і заводаў. Яны хочуць выжыць і працаваць. Маім жа калегам-камерсантам хачу даць параду. Час аматарства мінуў. Трэба перагледзець сваё стаўленьне да бізнэсу, бо ў інакшым выпадку можна лёгка апынуцца на задворках дзелавога сьвету.

# ВІНШУЕМ З ДНЁМ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ!

У краі навала - лезуць расейцы,
Нашыя землі гелзаюць ў лейцы.
Хто будзе моцны, хто будзе горшы
Вырашыць заўтра бітва пад Воршай.
Змоўклі вусьцішна горад і вёскі -
Сілы гуртуе гетман Астрожскі.

Голаў вышэй, спадкаемцы Альгерда!
Выжанем прэч чужаземнага сьмерда.
За Жыгімонта! З намі Пагоня,
Бог разам з намі, Бог нас бароне.
Там, дзе Крапіўна зараз бруіцца,
Станем сьмяротна з ворагам біцца.

З кім будуць воля, жанчыны і грошы
Вызначыць мусіць бітва пад Воршай.
Кожны аб сіле і мужнасьці моліць,
Кожнаму трох неабходна адолець.
Час развітацца з жонкай і маці
Раз мо астатні ўкленчыць у хаце

Людзям канаць, груганам - баляваньне,
Нудна ўвосень прыходзіць сьвітаньне.
Хто будзе моцны, хто будзе горшы
Вырашыць сёньня бітва пад Воршай.

**Ладзік МАЙНІЧ.**



**ШАНОЎНЫЯ ГАРАДЗЕНЦЫ!**

10 верасьня г.г. (збор а 18-ай гадзіне ў старым гарадзкім парку каля Брацкай магілы) адбудзецца сьвяткаваньне Дня Беларускай Вайсковай Славы, прысьвечанае 480-ым угодкам перамогі пад Воршай.

У праграме:

1. Урачыстасьць каля Брацкай магілы і прынясцьцё прысягі;
2. Сьвяточнае пэсьце да Грунвальдзкага Знака на Калажы;
3. Набажэнства ў Каложскай царкве;
4. Канцэрт хора "Бацькаўшчына" і беларускіх бардаў.

Запрашаем на сьвята.

**Аргкамітэт па сьвяткаваньню 480-х угодкаў перамогі пад Воршай.**



# БІТВА ПАД ВОРШАЙ

Пачатак XVI стагоддзя быў вельмі неспакойны для тагачаснай Беларусі, якая складала асноўную частку Вялікага княства Літоўскага. Асаблівая небясьпека навісла над краем у час княжаньня ў Маскові Васілія III (1479-1533), які пачаў княжыць з 1505 года і аб'явіў сябе вялікім князем маскоўскім і "всея Руси", прэтэндуючы і на Русь Літоўскую, гэта значыць - Беларусь.

Ваенныя набегі маскоўскіх палкоў спусташалі гарады і сёлы Смаленшчыны, Віцебшчыны, Полаччыны, Мсьціслаўшчыны і больш аддаленых краёў. Адзін з чарговых ваенных паходаў маскоўскіх войскаў меў месца ў сьнежні 1512 года, асноўнай мэтай якога быў захоп Смаленскай крэпасьці,узяць якую не ўдалося, але край быў парабаваны грунтоўна. Ваяводы Васілія III з сваімі палкамі даходзілі да Віцебска, Полацака, Мсьціслава, Воршы, Друцка, Барысава, Менска і нават Браслава. Былі спалены і пасады Кіева. Кожная такая гвалтоўная аперацыя завяршалася рабаваньнямі, бясчынствамі і ўгонам тысяч палонных, што затым выкарыстоўваліся як няволь-ная рабочая сіла.

Летам 1513 года маскоўскія войскі зноў штурмавалі Смаленск. Полачныму ж рабавалі палкі князя Васіля Шуйскага. Толькі калі ў раёны гвалтоўных дзеяньняў падаспела аб'яднанае беларуска-літоўска-польскае войска, вораг пакінуў межы княства.

На гэтым, аднак, ваенныя дзеяньні маскоўскага князя не спыніліся. Наступная кампанія распачалася 16 мая 1514 года. Зноў быў абложаны Смаленск, для чаго акрамя вялікіх вайсковых сілаў было сцягнута 300 гармат.

Пасьпяховай абаронай Смаленскай крэпасьці кіраваў ваявода Юрый Салагуб. Неаднаразовыя зацятыя штурмы крэпасьці пад яго кіраўніцтвам былі адбіты з вялікімі стратамі для ворага. Бачачы безвыніковасьць лабавых атак, Міхал Глінскі, якому Васілій III паабяцаў Смаленскае княства і які ў 1508 годзе перабег з Летувы да маскоўскага князя, падкупам схіліў ваеначальнікаў на здраду. 30 ліпеня Смаленск быў зданы.

Пасьля захопу Смаленска, Васілі III даў загад 80-тысячнай конніцы рушыць углыб тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Гэтая конная лавіна пад камандаваньнем ваяводаў баярына Івана Чалядніна і князя Міхала Булгакава-Голіцы, рушыла ў напрамку Воршы і Друцка, а затым далей на Мсціслаў, Віцебск і іншыя гарады, ламаючы супраціўленьне на сваім шляху.

Насустрач маскоўскім палкам з Вільні праз Менск выйшаў з невялікім войскам кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт I. З часткай сваёй арміі ён затрымаўся ў Барысаве а пад Воршу паслаў гетмана князя Кастуся Астрожскага з 30-цю тысячамі вояў і артылерыяй.

Першая сутычка палкоў К.Астрожскага з ворагам адбылася 27 жніўня на левым беразе Бярэзіны. Праваўшы ўдалы абстрэл маскоўскіх пазіцый з гарматаў і пішчаляў, К.Астрожскі адцясьніў працўніка, наносячы яму адчувальныя страты.

1-га верасьня 1514 года аб'яднаныя беларуска-літоўска-польскія войскі выйшлі на раку Друць, дзе конныя атрады Івана Сапегі разбілі тры палкі маскоўскія, захапіўшы значны палон.

Адступаючы за Днепр, галоўны маскоўскі ваявода І.Чалядніна вырашыў даць пад Воршай разгромную бітву намнога меншым сілам Астрожскага. З гэтай мэтай разьмясціў свае палкі на зручных узгорках каля вёсак Пугайлава і Рукліна, пакінуўшы для войскаў Астрожскага абзорную даліну левага берага Дняпра.

7-га верасьня 1514 года аб'яднанае войска Астрожскага наблізілася да Дняпра. На перадзе ваяводаў вырашана прыняць рашаючую бітву, хоць было вядома, што сілы вельмі няроўныя. К.Астрожскі разлічваў на патрыятызм сваіх вояў, якія баранілі ад разбурэньня і няволі свой край, і на свой баявы вопыт, набыты ў шматлікіх бітвах з татарамі. Да таго ж, будучы ў маскоўскім палоне (адкуль уцёк у 1500 годзе), ён дасканала вывучыў баявую арганізацыю працўніка, ведаў яго слабыя бакі. Маскоўскія войскі пад Воршай не мелі артылерыі і пяхоты, а паміж ваяводамі існавала сапернiцтва за славу.

Падыйшоўшы непасрэдна да Дняпра і ўзважыўшы сітуацыю, Астрожскі не пайшоў на тактычны выклік працўніка. Каб паказаць Чалядніну і яго палкаводцам, што пераправа мяркуецца якраз супраць іх баявых парадкаў, ён пераправіў толькі некалькі тысяч сваіх вершнікаў. Ноччу ж у другім месцы, па пантонных мастах была перапраўлена артылерыя і астатнія палкі. Чалянін даведаўся аб усім, калі ўжо баявыя парадкі войскаў Астрожскага былі амаль гатовыя да бітвы. Неспадзяванасьць і тактычны манёўр беларускіх палкаводцаў аднак не спалохалі ворага. Ён ведаў, што колькасна амаль трохразовая перавага была на яго баку і разьлічваў на бясспрэчную перамогу і далейшы посьпех аперацыі. Рыхтаваліся флангавыя атакі, акружэньне і поўнае зьнішчэньне арміі Астрожскага. недабітыя рэштка меркавалася скінуць у Дняпро, а затым, беспрашкодна гайсаючы па безабаронным краі, несьці спусташэньні і паніку, падпарадкоўваючы гарады ўладзе маскоўскага князя.

К.Астрожскі заклікаў свае палкі да рашучай бітвы, у якой вырашаўся лёс роднай зямлі, усяляў веру ў справядлівую перамогу, як сыноў, прасіў рыцараў праявіць сапраўдную мужнасьць і сьвята захоўваць дысцыпліну. Растлумачыўшы сваім ваяводам план мяркуемых тактычных хітрасьцяў, ён прасіў строга выконваць каманду.

Бітва пачалася раніцай 8 верасьня 1514 года на левым беразе Дняпра, за пяць кіламетраў ад Воршы, на фроньце шырыняй каля трох кіламетраў. Аб'яднаныя сілы пад камандаваньнем К.Астрожскага разьмясьцілі свае баявыя парадкі па традыцыйнай схеме, у цэнтры якой стаялі палкі беларускай конніцы пад непасрэднай камандай самога гетмана. Побач размясьціліся польскія вершнікі В.Сампалінскага, а між імі - пяхота са стрэльбамі і пішчалямі. У другім эшалоне - конніца на чале з Ю.Радзівілам і Я.Свярчэўскім. Фланг пільна ахоўваліся рэзэрвовымі палкамі лёгкай конніцы. А артылерыя і значная частка пяхоты з сампалямі і пішчалямі была схаванаа на правым флянзе, у лесе.

Перад бітвай сьвятары адправілі малебен. І пачаліся "гарцы" - паядынкі паміж вершнікамі абодзвух бакоў, каб зааахвоціць да бою астатніх. Затым затрубілі трубы, ударылі бубны, раcпусьціліся сцягі і бітва закіпела. У бой рушылі маскоўскія флангі з мэтай акружыць войскі Астрожскага, але гетманам такі манёўр ўжо быў прадугледжаны і атакі ўдала адбіты. Тады прагучала каманда наступаць, і цяжкаўзброеная кавалерыя Сампалінскага ўрэзалася ў маскоўскія шэрагі, набіраючы разгон. Бітва кіпела па ўсяму фронту. Актыўна змагалася і пяхота. Контратака перайшла ў наступ. Але ўвёўшы падмацаваньне, маскоўцы пачалі паўторны штурм. Тут асабліва спрацавала пяхота, якая дружным залпам збівала варожых вершнікаў, уносячы замяшаньне ў іх рады.

У рашаючы момант Астрожскі ў бой кінуў свой галоўны полк і асабістай адвагай даваў прыклад астатнім. Асноўны накал бітвы разгараўся на пазіцыях палкоў Булгакава-Голіцы. Чалядніна марудзіў з падмогай сапернiку па славе, разлічваючы на больш эфектыўную развязку бітвы на сваім адрасу фронту, дзе падзеі разгорталіся чамусьці замаруджана. Астрожскі, скарыстаўшы такую тактычную няўзгодненасьць ворага, наносіў узмоцнены націск на пазіцыі Булгакава-Голіцы, стараючыся пераламіць ход бітвы ў сваю карысьць. Нарэшце вораг не вытрымаў націску, конніца Голіцы была зломлена. Са значным спазьненьнем Чаляднін павёў у наступ свае асноўныя сілы. Па загаду Астрожскага шэрагі беларуска-літоўска-польскіх палкоў пачалі падманнае адступленьне ў бок лесу. Затым, раздзяліўшыся на два флангі, адкрылі акрыленага перамогай ворага агню сваёй замаскіраванай артылерыі і пяхоты. Пасьля нечаканых залпаў пераможны настрой зьмяніўся панічным. Поле ўсыцалася трупамі. Ход бітвы рантоўна зьмяніў арыенціры. Фактычна, бітва К.Астрожскім была выйграна. Маланкавай контратакай сваёй конніцы гетман канчаткова паралізаваў сілы ворага, зьнішчаючы яго і ліквідуючы, як баявую адзінку. Разгром быў поўным. І.Чаляднін і М.Булгакаў-Голіца, а таксама восем іншых вярхоўных ваяводаў і 37 начальнікаў меншага рангу былі ўзяты ў палон. У палон трапілі тысячы воінаў, захоплены дзесяткі тысяч коней і адзінак зброі.

Бітва пад Воршай увайшла ў эўрапейскую гісторыю як яскравы і павучальны прыклад перамог умелай тактыкай пры значна меншых сілах. Гэтая перамога Кастуся Астрожскага - адна з слаўных старонак нашай вайсковай гісторыі і нагадвае нам сёньня аб многім.

Сьвята нашай вайсковай славы зьвязваем мы сёньня менавіта з гэтай датай - 8 верасьня.

**Васіль СУПРУН, г.Слонім.**

**НА ЗДЫМКАХ: злева - К.Астрожскі; справа - "Бітва пад Воршай" (фрагмент карціны).**

## КАРМІЛІ ЖЫВЁЛУ ХЛЕБАМ І БУДУЦЬ КАРМІЦЬ

Адной з прычын падвышэньня цэн на хлебабулачныя вырабы было жаданьне ўрада і Прэзідэнта Беларусі прадухіліць іх выкарыстаньне на адкорм хатняй жывёлы. Але ж аднаго жаданьня мала. Таму і вырашылі даць тым, хто трымае скаціну, канцэнтраваныя кармы. Гарадзенскі аблвыканкам выдзяліў іх 9,8 тысяч тон па цане 250-400 рублёў у залежнасьці ад рэцэптуры. Здавалася б, лічба вялікая. Але ж калі ўлічыць, што ў насельніцтва вобласьці (па дадзеных статупраўленьня) на ўтрыманьні хатняй жывёлы 142 тысячы буйной рагатай жывёлы, у тым ліку 125 тысяч кароў, 221 тысяча сьвіней і каля пяці тысяч коней, то атрымліваецца, што на адну ўмоўную галаву прыпадае 42,5 кілаграма корму. І гэта ўсё, што атрымае яе гаспадар да канца года з дзяржаўных рэсурсаў. У той жа час, каб выгадаваць сьвіньню, патрэбна прыкладна 500 кілаграмаў камбікорму, тага ж бычка - тона, а малочную карову - 1.500 кілаграмаў на год. Атрымліваецца, што выдзяленага хопіць на месяц-два максімум. Прасьцей вяскоўцам, ім і раней гаспадаркі давалі кармы на ўтрыманьне хатняй жывёлы. А што рабіць гараджанам? Нічога не застаецца, як надалей працягваць даваць, хаця і значна менш, чым раней, на корм скаціне хлеб. Ня дзіўна, што насельніцтва вельмі актыўна набывае канцэнтраваныя кармы: на канец жніўня было прададзена звыш трэці ад усёй іх колькасьці. Мяркуецца, што ў верасьні яны будуць рэалізаваны ў поўным аб'ёме.А што далей?

**А.ДУК.**

**Небясьпечнымі становяцца падарожжы па летувіскай чыгунцы. Нядаўна ўзброены рабаўнік адкрыў страляніну ў вагоне дызельнага цягніка Вільня-Друскенікі. На шчасьце пасажыраў і двух кантралёраў, што знаходзіліся ў вагоне, бандыт не выдучыўся трапнасьцю. І гэта не адзіны выпадак. Асабліва крымінагенная абстаноўка на Віленска-Гарадзенскім накірунку, якім карыстаюцца летувіскія й беларускія чаўнакі.**

## СЬПЯЦЬ У ШАПКУ

Ёзас Янковічус, старшы кантралёр-праваднік дызель-цягніка Вільня-Горадня, на запыт карэспандэнта "Пагоні" адказаў: "На нашым маршруце гандляроў рабуюць добразарганізаваныя злачынныя групы. Яны складаюцца пераважна з падросткаў. Падшпаркі дзейнічаюць жорстка й нахабна. Для дасягненьня мэты скарыстоўваюць самаробную агнястрэльную зброю, ланцугі ад ровэраў, фінкі. Часам, у справу пускаюць бітыя шкляныя бутэлькі. Вось і сёньня, 26 жніўня, група з чатырох хлапцоў, сеўшы на станцыі Зелянас да начнога дызеля Друскенікі-Вільня, патрабавала ад пасажыраў па 10-15 літаў. Як аргумэнт злачынцы скарысталі самапалы, зрабіўшы два стрэлы. Ахвяр няма, але страху пасажырам хапіла. На нашы патрабаваньні выдзяліць паліцыянтаў на суправаджэньне начных цягнікоў Віленскі й мясцовыя камісарыяты паліцыі не рэагуюць. Відаць, такое становішча будзе доўжыцца да таго часу, пакуль хто-небудзь не загіне."

Пакуль летувіскія паліцэйскія сьпяць у шапку, рускамоўная газета "Эхо Литвы" зрабіла заяву, што кожнае дзевятае злачынства на Летуве адбываецца на чыгунцы.

**Г.ПАДЛЯШУК.**

Васіль РАГУЛЯ

# УСПАМІНЫ

(Пачатак у NN 21-27).

Аднойчы, будучы ў Вільні, я зайшоў у кафэ Штраля пры вуліцы Міцкевіча і папрасіў шклянку піва. Бачу, уваходзіць Гурын. Заўважыўшы мяне, ён неяк зьбянтэжыўся. Я запрасіў яго да століка і заказаў яшчэ адзін куфель піва. Ён сеў. Я спытаў: "Ці праўда, Міша, што ты стаў на нядобрую дарогу - служыць у дэфэнзыве?" На маё пытаньне я не атрымаў адказу. Мне ўсё стала ясна. Мы разышліся, і пасьля гэтага я яго больш не спаткаў. Хутка пасьля таго я даведаўся, што Гурын быў застрэляны ў Вільні нейкім маладым чалавекам з-пад Трад, Усьціновічам. Забойцу засудзілі на 10 год цяжкай турмы. Пасьля я яго бачыў у Лукіскай турме ў ланцугох. Так скончыў закладчык КПЗБ - Гурын.

Пасьля ягонага арышту прыпыніліся і ягоная дапамога. Аднак сродкі былі. Адкуль? -думаю, што ад Вульянава, першага дарадчыка Палпрэдства ў Варшаве, беларуса, родам з Магілёўшчыны. Вульянаў, між іншым, выстараўся дапамогу Саветаў на адкрыцьцё Грамадою ў Вільні Зямельнага банка, у вышыні 15.000 дал., у тры раты па 5.000 дал. кожная. Першую рату атрымаў я, антыкамуніст, старшыня Сялянскага Саюзу і Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу, але бяз ведама сяброў Клюбу. Чаму і як гэта сталася? Вось гэтак. Аднаго дня, у Сойме, Тарашкевіч папрасіў мяне зайсьці да яго ў габінет. Там быў Р.Астроўскі. Яны абудва зьвярнуліся да мяне з просьбаю пайсьці ў Савецкае пасольства і атрымаць для Беларускага Банку 5.000 дал. "За пасламі Грамады бесьперапынна сочыць дэфэнзыва; іх могуць накрыць, як кажуць, на гарачым учынку, а тады бывайце даляры. Табе, які не належыш да Грамады, зрабіць гэта лягчэй," - казалі яны.

"У сваёй прэсе вы называеце мяне правакатарам, здраднікам і другімі эпітэтамі, а цяпер хочаце, каб я, рызыкуючы 12-цю гадамі цяжкай турмы, зрабіў вам такую ахвярную прыслугу? Адно з другім несумяшчальна!"

"Братко, мы не вінаваты! Гэта ўсё робіць Луцкевіч."

Пасьля доўгіх намоваў я згадзіўся. Пайшоў, атрымаў, нават без аніякай распіскі, прынёс і даручыў усё Тарашкевічу і Астроўскаму. Чаму я гэта зрабіў? Няхай мяне судзяць суродзічы. Я лічу, што ўсякі дар добры, калі ён ня йдзе ў асабістую кішэню тае ці іншае асобы, а ідзе на агульна-беларускую справу. Тым большае права мы мелі гэтак зрабіць, калі дзяржаўныя сродкі былі для нас зачыненыя нават на такую патрэбу, як падтрымка гімназіяў,і купля зямлі сялянам. Падаткі ж мы плацілі аднолькава з грамадзянамі польскай нацыянальнасьці. Аб гэтым атрыманьні не ведаў навет польскі суд, што судзіў паслоў Грамады. Атрыманьне другой раты выявілася на ўспомненым судзе. Паводля слоў пракурора, Тарашкевіч атрымаў ад Саветаў 5.000 дал. цераз Транзытны Банк у Рызе. Аб атрыманьні трэцяй раты мне нічога ня ведама.

Пасьля атрыманьня першай раты ў Грамадзе паўстала пытаньне, як замаскаваць паходжаньне грошай у банкавых кнігах. Я парадзіў Рак-Міхайлоўскаму і Валошыну расьпісаць гэтую суму як уклады паасобных, але давераных асобаў, якія эвэнтуальна не прысабечылі б сваіх уяўленых укладаў. Гэткімі асобамі ня могуць быць паслы, бо іх могуць арыштаваць, блякуючы адначасова і іх уклады. Гэтак яны і зрабілі. На чые прозьвішчы была расьпісаная гэтая сума, мне ня ведама, ды і я гэтым ня цікавіўся. Толькі пасьля я выпадкова даведаўся ад сэнатара Багдановіча, што на імя брата Мятлы запісана 600 дал., а на імя Р.Астроўскага і ягонай жонкі - каля 1.160 дал.

Пазьней, пасьля ліквідацыі Грамады, грамадоўцы, што засталіся на волі, дарučылі кіраўніцтва банкам сэнатару Багдановічу. Ён і стаўся дырэктарам банку. Аднойчы ў Варшаве ён сказаў мне, што брат Мятлы і Астроўскі з жонкаю дамагаюцца выдаць ім іх "уклады". Фармальна яны мелі на гэта права. Я парадзіў яму ўздзеяць на іх грамадзкае пачуцьцё, а калі не паможа, дык выдаць. Другога выхаду не было. Як было пасьля, мне не ведама. Сам факт патрабаваньня выдачы "ўкладаў" без зазначэньня, на што яны будуць безкантрольна расходаваны, кінуў на "укладчыкаў" непрыемны цень і выклікаў прыгнятаючае ўражаньне сярод сяброў Пасольскага Клюбу.

## РАЗГРОМ ГРАМАДЫ

Грунт для буйнага росту Грамады быў старанна прыгатаваны. Яго прыгатавалі ня хто іншы, як я, спачатку перадвыбарчаю агітацыяй, пазьней пасольскаю. Не дарма Рак-Міхайлоўскі мне казаў: "Ты ж духовы бацька Грамады. Чаму ты пакінуў сваё дзіця?" Як рунь на добрай глебе пасьля веснавога дажджу шумна падымаецца ўгару, гэтак шумна тварыліся мясцовыя гурткі Грамады. Ад канца чэрвеня 1924 г. да яе разгрому перад новым 1926г. лік сяброў узрос да 121.000 чалавек. Увесь палітычны сьведамы элемэнт уліўся ў гурткі і пацягнуў за сабою менш сьведамую большасьць. Разам з доказамі нацыянальнага характару кіраўнікі гурткоў гаварылі маласьведамым: "На весну адбудзецца падзел абшарніцкіх маёмасьцяў і ты, калі ня ўвойдзеш у Грамаду, ня будзеш дапушчаны да падзелу." Лік сяброў гурткоў рос ня днямі, а гадзінамі. Уся Заходняя Беларусь была ахоплена густой сеткаю гурткоў. Аднасова з колькасьцю расла і актыўнасьць грамадоўцаў. Амаль у кожнай вёсцы быў гурток. Уладжваліся частыя зборкі сяброў. На зборках абгаворваліся пытаньні бягучай нутраной палітыкі. Як малады конь, першы раз запрэжаны, рве з месца, так бралі гурткі. Там часта можна было пачуць клічы супярэчаныя з існуючымі законамі. Пры слабой нутраной партыйнай дысцыпліне гурткі самацёкам рэвалюцыянізаваліся ўсё больш і больш. На гэтую дарогу штурхала іх польская дэфэнзыва. Ейныя агенты не без ведама адміністрацыі, або па яе распараджэньні, уступалі ў лік сяброў партыі. Яны сваімі правакацыйнымі выступленьнямі пхалі Грамаду да ліквідацыі. Партыйны цэнтр ня быў у стане стрымліваць экспансыўнасьць гурткоў і фактычна, пад канец 1925 года, яны былі ўжо без цэнтральнага кіравецтва. Звычайныя сябры партыі спадзяваліся, на выпадак забурэньняў, на дапамогу з усходу. Цэнтар гэтай надзеі ня меў. Ён добра ведаў, што дзеля Заходняй Беларусі Саветы не адважацца на канфлікт з Польшчаю. Значыць, у выпадку якіх-небудзь сур'ёзных закалотаў мы застанёмся адзінокія, пакінутыя на ласку лёсу. Усякі выбух актыўнага супраціву будзе затушаны беларускай крывёю. Гэта магло выклікаць у народзе, без адпаведнага палітычнага гарту, адваротную рэакцыю, шкодную для нашага палітычнага руху. Такі быў мой пункт гледжаньня на стварэнае палажэньне. Яго я і разьвіваў паслом Грамады і асабліва Тарашкевічу.

За колькі дзён перад арыштам грамадоўцаў Тарашкевіч запрасіў мяне пайсьці з ім на вячэру. Мы зайшлі ў спакойны рэстаран пры вуліцы Манюшкі "Pod Wiecha". Вячэраючы, мы гутарылі аб вытвараным палажэньні. Я намаляваў яму падрабязна становішча на месцах і сказаў: "Што ж, калега, на весну давядзецца заклікаць народ да паўстаньня." Ён, безнадзейна разьвёўшы рукамі, адказаў: "Лейцы, братка, выпалі з рук." Пры гэтым ён пацьвердзіў, што няма ніякай надзеі на дапамогу Саветаў. У сапраўднасьці лейцы ня выпалі з рук, а іх выхапілі з рук Тарашкевіч Ваевудзкі і К. Вось гэты правакатар і згуляў вялікую ролю ў зьвіішчы буйнога росту Грамады і пазьней ейнага разгрому. Увайшоўшы ў нейкі спосаб у давер Тарашкевіча, Луцкевіча і яшчэ некаторых дзеячоў Грамады, ён трымаў руку на пульсе росту і разьвіцьця Грамады і ўсякімі магчымымі спосабамі прапіхаў у Грамаду сваіх агентаў з мэтаю падмінаваньня яе знутра. Як пабачым далей, гэта яму ўдалося: Грамада была распушчана, а выдатнейшыя ейныя працаўнікі апынуліся за турэмнымі кратамі. Апрача Грамады Ваевудзкі, за пасрэдніцтвам свайго супрацоўніка ў Вільні Сьвіневіча, сачыў за беларускімі студэнтамі ў Чэскай Празе. Гэта выявілася на Маршалкоўскім Судзе Ярэміча і Ваевудзкага.

Грамадоўскі рух пралез і ў беларускія гімназіі. Дырэктар Віленскай Гімназіі Р.Астроўскі, тады сам грамадовец, ня толькі талераваў, а, я сказаў бы, фаварызаваў у часох Гурына гэты рух. З уласьцівай яму ўсьмешкаю, у інтымным коле ён называў сваіх выхаванцаў камсамольцамі. Дырэктар Навагрудзкай Гімназіі глядзеў на гэты рух у сваёй гімназіі паблажліва, праз пальцы. Перайшоўшы пасьля на польска-беларускую ўгоду, Астроўскі сваімі собскімі рукамі выкараняў тое, што раней падтрымоўваў. У выніку наступілі арышты некаторых вучняў і выключэньне іх з гімназіі.

Польскі ўрад з непакоем глядзеў на беларускія "Крэсы" і нарэшце адважыўся на вострыя меры. У часе калядных парлямэнцкіх вакацыяў 1925 года віленская пракуратура, ньглядзячы на дэпутацкую нятыкальнасьць, арыштоўвае паслоў Грамады - Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлу і Валошына, а з імі Р.Астроўскага і А.Луцкевіча. Усіх іх абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе. Абвінавачаньне пагражала 12-цю гадамі цяжкай турмы. Урад аб'явіў Грамаду распушчанай і, значыць, нелегальнай.

Арышт бяз згоды Сойму пракуратура тлумачыла як злаўленьне на гарачых сьлядох праступку, што і давала ёй фармальна права арышту. Толькі пасьля калядных вакацыяў яна ўнесла ў Сойм просьбу аб выдачы арыштаваных для судовай расправы. У Сойме ў абарону арыштаваных паслоў выступілі нацыянальныя меншасьці. Ад Беларускага Пасольскага Клюбу выступіў я як старшыня Клюбу. Памятаю гэты вялікі дзень у Сойме. Усе паслы на месцах, галерэя запоўнена публікаю, дыпляматычная лёжа поўная. У сваёй прамове я дапускаў вострыя звароты пад адрасам ураду, польскай улады і навет маршалка Пілсудзкага, спадзяючыся справакаваць маршалка Сойму на ўжыцьцё ім скрайняй меры - пазбаўленьня мяне слова. Зраўнаважаны і цярплівы Ратай абмежаваўся патройным прыкліканьнем мяне да парадку з запісам у пратакол, што цягнула кару грашовым штрафам у вышыні 50 зл.

Сойм выдаў паслоў для судовай расправы, а суд прысудзіў, калі не мыляюся, на 8 гадоў цяжкай турмы кожнага. Луцкевіч і Астроўскі былі апраўданы. Абудва яны купілі свабоду цаною разьбіцьця бога Грамады і пакланеньня богу ўгоды. Сабалеўскага судовыя ўлады пакуль не чапалі. Ён скарыстаў з гэтага, ды пры дапамозе сэнатара Назарэўскага і нямецкіх паслоў Сойму, што жылі ў Катовіцах, быў перакінуты ў Нямеччыну. Адтуль ён пераехаў на тэрыторыю вольнага гораду Данцыга, дзе і жыў у курортным гарадку Цопотах. Я рэгулярна бачыў яго ягоныя дыеты і прабаваў шчасьця ў ігры ў рулетку, часамі з даходам, часамі з пройгрышам. На аснове нейкіх меркаваньняў Сабалеўскі вярнуўся ў Варшаву, быў суджаны і судом апраўданы.

Так закончыла сваё легальнае існаваньне Грамада.

## САПРАЎДНАЕ АБЛІЧЧА ВАЕВУДЗКАГА

З папярэдняга мы бачылі, якую ролю згуляў пасол Ваевудзкі ў разгроме палітычнага жыцьця Заходняй Беларусі. Не дарма ж кс. А.Станкевіч называў яго "злым гэніем беларусаў". застаецца аканчальна адсланіць маральнае абліччa гэтага асабня.

Гэта быў чалавек надзвычай энэргічны, бязьлітасны, прагны на пашану й на ўладу. Ён мог быць другім Дзяржынскім. У часе польска-савецкай вайны ён быў афіцэрам польскай арміі ў Менску і кіраваў контрразьведкаю, стоячы на чале дэфэнзывы. Ужо тады ён зышоўся з беларусамі ў Менску і, паводле слоў Тарашкевіча, аддаваў ім нязначныя ўслугі, прадстаўляючы з сябе нашага сымпатыка. Якую працу ён выконваў ад часу падпісаньня міру з Савецкім Саюзам да выбараў у Сойм 1922 г., мне ня ведама.

На тэрыторыі Сойму Ваевудзкі трымаўся вельмі задзёрыста, накіроўваючы пад адрасам правых, цэнтру і ўраду часта абразьлівыя выкрыкі. Урад маўчаў, грамадзкая апінія не ар'ентавалася ў сапраўднасьці справы, а Ваевудзкі ўсё больш нахабнеў і расьперазваўся. Нарэшце ўпала апошняя кропля, якая перапоўніла кубак цярпеньня ўраду Бартэля. З соймавай трыбуны, ня памятаю ў якой справе, выступаў Міністар Юстыцыі Мэйштовіч. Ваевудзкі і крыкнуў пад адрасам ураду: "Katagyniarze!" (Кацярынаўцы).Гэтым ён вытыкаў Мэйштовічу ягоную афіцыяльную прысутнасьць на адкрыцьці памятніка Кацярыне II ў Вільні. З урадавай лавы падымаецца прэм'ер Бартэль і просіць слова. Коратка і ясна ён заяўляе, што Ваевудзкі ня мае права на такія выступленьні: ён урадавец другога аддзелу (разьведкі) Міністэрства Нутраных Справаў. Гэтая заява выклікала вялікае хваляваньне сярод усіх дэпутатаў. Афіцыйна пацьвердзіліся падазраньні кс. А.Станкевіча. Апрача таго, у беларускіх колах гаварылі і аб тым, што ён сябра Выканаўчага Камітэту Камінтэрну. Далейшыя падзеі пацьвердзілі і гэта.

Назаўтра ў воргане Народнай Дэмакратыі "Gazeta Warszawska Poranna" зьявіўся фэльетон Новічыньскага пад загалоўкам: "Новы Азэф у Польшчы". Ваевудзкі на гэта ў прэсе не рэагаваў. Балін абурыўся. Аднак Ваевудзкаму ўдалося нейкім чынам супакоіць сваіх беларусаў. Дэманстратыўна ён адаслаў прэзыдэнту рэспублікі ўсе ордэны і адзнакі, якія ён раней атрымаў.

Пасьля роспуску Сойму Ваевудзкі некаторы час шноўдаўся да Польшчы, а пасьля без перашкодаў пераехаў на тэрыторыю вольнага горада Данцыга. Адтуль ён з жонкаю папаў у Маскву. былі чуткі, што з Масквы ён быў адкамандыраваны на нейкую нячыстую работу ў Букарэшт, адтуль, пасьля правалу арганізацыі, ён быў пераведзены на такую самую працу ў Будапэшт. Адтуль, пасьля няўдачы, быў выкліканы ў Маскву, дзе і быў зьліквідаваны. Так загінуў самы спрытны польскі правакатар у Заходняй Беларусі, на сумленьні якога ляжыць шмат цярпеньняў беларусаў, у тым ліку і гібель грамадоўскіх паслоў у ШИЗО Салавецкага лягеру і Тарашкевіча, што загінуў невядома дзе і пры якіх абставінах.

(Працяг будзе.)

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

1-га верасьня аб'яўлены ў Польшчы Днём ветэрана, - паведаміў міністар А.Дубраньскі, кіраўнік ведамства па справах ветэранаў рэпрэсіраваных. Пастанова аб устанаўленьні Дня ветэрана была прынята з мэтай ушанаваць геройства польскіх салдат, якія змагаліся за свабоду і незалежнасьць Айчыны.

* * *

У Беластоку пабывала дэлегацыя Саюза Беларускіх прадпрыймальнікаў, якую ўзначальвалі віцэ-міністар фінансаў Георгій Тарасевіч і прэзыдэнт СБП Уладзімер Карагін.

На сустрэчы з беластоцкімі рамесьнікамі і прадпрыймальнікамі абмяркоўвалася новая мадэль супрацоўніцтва паміж суседнімі дзяржавамі. Польскі бок цікавіўся магчымасьцямі заснаваньня фірмаў або акцыянерных таварыстваў на тэрыторыі Беларусі, а госьці - пэрспэктывамі наладжваньня супрацоўніцтва ў мэблевай, аўтамабільнай, упаковачнай і перапрацоўчай галінах.

Абодва бакі прыйшлі да высновы, што яшчэ рана падпісваць папярэднія дамовы.

* * *

У рамках 31-га песеннага фестывалю ў Сопаце прайшоў марафон поп-музыкі, у якім рэй вялі зоркі музыкі дыскапола з Беластока. Некалькі тысяч паклоньнікаў поп-музыкі ўсю ноч танцавалі пад гукі модных песень з вясковых дыскатэк. Канцэрт вёў вядомы тэлежурналіст Марэк Сероцкі.

"Мы сьпяваем усё: цыганскія, беларускія, украінскія песьні, перароблены на польскі лад", - сказаў член аднаго з беластоцкіх гуртоў.

* * *

У Бельску-Падляскім у сярэдзіне жніўня выйшаў з друку першы нумар часопіса "Тыгоднік Падляскі". У перадавіцы рэдакцыя заяўляе, што згодна з Канстытуцыяй, да нацыянальнай і рэлігійнай нянавісьці газэта падбухторваць не будзе. Не будзе таксама прапагандыскім рупарам ніводнай палітычнай партыі і групоўкі.

**По матэрыялах польскага друку.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Летувіскіх спецыялістаў па атамнай энэргетыцы будуць рыхтаваць у Обнінску. Гэта было падцьверджана падчас падпісаньня трохбаковага дагавору паміж Обнінскім інстытутам атамнай энэргетыкі, Каўнаскім тэхналагічным унівэрсітэтам і Ігналінскай атамнай электрастанцыяй.

* * *

Дзяржаўны Каўнаскі завод авіяцыі стане першым былым ваенным заводам Летувы, які пачне выпускаць прадукцыю сумесна з Украінскай асацыяцыяй сучасных тэхналогіяў, навукаёмкай прадукцыі й паслуг - алмазныя інструменты для перапрацоўкі збожжа й скур. У будучыні, магчыма, будуць выпускацца прылады бытавога прызначэньня.

* * *

Футбаліст зборнай Летувы Вальдас Іванаўскас, які выступае цяпер за клуб бундэслігі "Гамбург" мае намер папрасіць нямецкае грамадзянства. Гэта ўжо не першы выпадак сярод летувіскіх спартсмэнаў. Гандбалістка А.Жукене з'яўляецца з нядаўняй пары грамадзянкай Аўстрыі. Яшчэ два прадстаўнікі гэтага віда спорту - Р.Шульскіце і В.Пяткявічус - нямецкія грамадзяне.

* * *

Граф Альфрад Тышкевіч зьвярнуўся да ўладаў Палангі з прозьбай даць яму дом наўзамен палацу ягоных продкаў, дзе цяпер знаходзіцца Музэй Бурштыну.

* * *

Сойм прыняў закон, які рэгламентуе карыстаньне транспартнымі сродкамі.Штрафы за перавышэньне хуткасьці павялічыліся ў 10 разоў:за парушэньне правілаў дарожнага руху нецьвярозы вадзіцель будзе цяпер плаціць не 237, а 2000 літаў.

* * *

Эўрапейскі інвестыцыйны банк пагадзіўся фінансаваць у гэтым годзе праект рэканструкцыі Міжнароднага віленскага аэрапарта і выдзяліў на гэтую мэту пазыку на суму 10 млн. экю. Вяртаньне крэдыту павінна распачацца праз 5 гадоў. Банк жадае, каб віленскі аэрапорт стварыў аднолькавыя варункі абслугоўваньня ўсіх авіяліній сьвету і павялічыў тарыфную аплату для пасажыраў да 10 даляраў (цяпер 7 даляраў). Рэканструкцыя аэрапорту павінна скончыцца ў 1996 годзе.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА**



Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў N 28:

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ**

1.Укладальнік. 6.Пячора. 10.Том. 11.Цэнтр. 12.Сап. 13.Нататкі. 15.Рэшта. 17.Аспід. 19.Маёр. 20.Ратай. 22.Ясінскі. 23.Біла. 24.Руно. 25.Хан. 26.Аўтарытэт. 30.Напарстак. 33.Бра. 34.Гарэм. 36.Клас. 37.Гарэцкі. 39.Нерат. 41.Нюанс. 43.Ласка. 45.Русалка. 47.Кош. 49.Норма. 50.Док. 51.Скрыня. 52.Суверэнітэт.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ**

1.Ультрамарын. 2.Домна. 3.Ласт. 4.Нант. 5.Кацавейка. 6.Панацэя. 7.Чарга. 8.Рыс. 9.Ападкі. 10.Туш. 14.Арфа. 16.Турбота. 18.Пасат. 20.Рахіт. 21.Тон. 27.Тракт. 28.Рага. 29.Тэмперамент. 31.Парча. 32.Канферанс. 33.Бор. 35.Асада. 37.Гунька. 38.Імперыя. 40.Абза. 42.Сенцы. 43.Ладан. 44.Сак. 46.Лаўр. 48.Шок.

# КРЫЖАВАНКА

**Склаў Вадзім ЮШЧАК.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2.Парода малочна-мясных кароў. 8.Сярэдняпозьні сорт памідораў. 9.Статак жывёлы. 10.Прадукт, які атрымоўваецца пры згушчэньні пары ў вадкасьць. 11.Шматгадовая садовая кветка. 12.Матэрыял, які прымяняецца для атынкоўкі пячэй. 14.Род накіпных лішайнікаў. 21.Лячэньне унутраных хвароб. 22.Алыча. 23.Вялікі шырокі нож. 26.Карняплод, двухгадовая расьліна. 27.Перакрыцьцё ў форме дугі паміж дзьвума апорамі. 28.Млекакормячыя сям'і куніцавых. 29. Познасьпелы сорт бульбы сталовага прызначэньня. 30.Пачатковы момант спаборніцтва. 31.Салодкая маса з арэхаў. 32.Аднагадовая расьліна, ужываецца пры засольваньні і марынаваньні агародніны. 33.Бочка з прамымі бакамі. 36. Аснова станка. 38.Травяністая дзікарастучая духмяная расьліна, якую разводзяць як дэкаратыўную. 40.Чалавек, які грае на духавым народным музычным інструменьце. 43.Невялікі груз на шнурку. 45.Памяшканьне для прыгатаваньня ежы. 47.Званьне, пасада дацэнта. 48.Мадэль пральнай машыны. 49.Група павозак з грузам. 50.Сырамятны рамень вупражы, які праходзіць праз кольцы пасядзёлка і падтрымлівае хамут і аглоблі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1.Ручны вялізарны апарат. 2.Фінская лазьня. 3.Царкоўная акруга. 4.Вобласьць распаўсюджваньня асобных відаў жывёлы ці расьлін. 5.Спецыяліст па славяназнаўству. 6.Лішайнік, які расьце на тарфяных балотах. 7.Шматгадовая травяністая расьліна, вострая прыправа. 11.Галіна расьлінаводства. 13.Прыстасаваньне жывёл ці расьлін да нязвыклых для іх кліматычных умоў. 15.Род дрэў і кустарнікаў, сям'я ружацветных. 16.Хваёвае дрэва. 17.Асоба, якая ўзяла зямлю ў арэнду. 18.Частка расьліны, у якой разьвіваюцца споры ў нецьвятковых расьлін. 19.Буйная спора ў водных папаратнікаў. 20.Вадзіцель сельгасуборачнай машыны. 23.Новы летні сорт яблыні (ад скрыжаваньня сартоў Папіроўка і Мелба). 24.Выбуховае рэчыва, якое знаходзіцца ў пэўнай колькасьці ў патроне. 25.Хатняя птушка. 34.Велічыня прадмета ў кубічных адзінках. 35.Насеньне травяністай расьліны, якое паляпшае смак квашанай капусты. 37.Трэцяя стадыя клеткавага дзяленьня. 38.Канец іголкі. 39.Пладовая культура. 41.Жаночае імя. 42.Шэры заяц. 44.Тоўстае грубае сукно. 46.Акварыумная рыбка.

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 5.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 Серыял вытв. ЗША. 09 30 Фільм для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Дынастыя". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Прыемнае с карысным. 12 30 Тэлетурнір. 13 00 Навіны. 13 10 Адукацыйнае тэлебачанне. 14 40 Гэта гісторыя. 13 45 Хроніка васьмідзесятых. 14 05 Цэнтральная Еўропа. 14 35 Агнём і мечом. 14 50 Гэтае назвыклае XX стагоддзе. 15 20 Тайная гісторыя СССР. 15 45 Гэта гісторыя. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычны часопіс. 16 30 Праграма для падлеткаў. 17 00 Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Публіцыстычная праграма. 19 10 Серыял вытв. ЗША. 19 40 Юбілейная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Тэлетэатр. 23 00 Пульс дня. 23 15 Тэлечасопіс. 23 45 Адразу з Бельведэра. 00 00 Навіны. 00 20 "У цемры ночы". Фільм вытв. ЗША. 01 55 Рэпартаж. 02 15 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 30 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 05 Мультфільм для дзяцей. 11 30 Праграма по заяўках. 14 00 Панарама. 14 15 "Сын сонца і дачка Луны". Серыял вытв. Нарвегіі. 15 15 Тэлечасопіс. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Польская кінахроніка. 16 40 Спартыўная студыя. 17 10 Тэлеконкурс. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Тэлетурнір. 20 05 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 "Прыпынак Аляска". Серыял вытв. ЗША. 21 45 Тэлечасопіс. 22 00 Панарама. 22 30 Спісы памяці. 22 40 Дакументальны фільм. 00 10 Дайце знак жыцця. 00 40 Публіцыстычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Канцэрт.

### АЎТОРАК, 6.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 09 30 Для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Жыццё". Серыял вытв. Японіі. 12 00 Рынак працы. 12 20 Запрашэнне да стала. 12 30 Сто гадоў. 12 40 Клуб адзінокіх сэрцаў. 13 00 Навіны 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Кухня. 13 50 Дакументальны фільм. 14 30 Тэлекамп'ютар. 14 55 Кніга цудаў тэхнікі. 15 10 Лік матэматыкі. 15 30 Лабараторыя. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычная праграма. 16 30 Экалагічны часопіс. 17 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Арыя са смехам. 18 40 Здароўе. 19 05 Мультфільм. 19 30 Сенсацыі XX стагоддзя. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Падман". Фільм вытв. Францыі. 23 00 Пульс дня. 23 15 Сэймограф. 23 30 Лісты пра гаспадарку. 00 00 Навіны. 00 15 Дакументальны фільм. 01 00 Тэлечасопіс. 01 30 Суседзі. 02 00 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 11 30 Праграмы па заўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Запрэтнае каханне". Серыял вытв. Іспаніі. 15 05 Тэлечасопіс. 15 45 У чым справа? 15 55 Прывітанне. 16 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 16 30 Спартыўная студыя. 17 05 Агляд кінахронік. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Тэлечасопіс. 18 10 У цяні Крамля. 18 40 Каталіцкая праграма. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 Пытанні пра Польшчу... 22 00 Панарама. 22 30 Экалагічная праграма. 22 40 Рэпарцёры другой праграмы прадстаўляюць... 23 00 "Блізнец". Камедыя вытв. Францыі. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 "Арыядна". Фільм вытв. Германіі.

### СЕРАДА, 7.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 Тэленавэла. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Ад калыскі да школы. 12 30 Сустрэча з моладдзю. 12 40 Юбілейная праграма. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 30 Сельскагаспадарчая праграма. 13 55 Арфаграфія. 14 10 Чараўнікі часу. 14 25 Тэатр польскага радыё перад вайной. 14 55 Байкот. 15 20 Лабараторыя мастацтва. 15 45 Прастора вакол нас. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для моладзі. 17 00 Тэленавэла. 17 25 Для моладзі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір. 19 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Энігма". Фільм вытв. Англіі. 22 55 Пульс дня. 23 10 Дакументальны фільм. 00 00 Навіны. 00 20 "Забей мяне". Фільм вытв. Польшчы. 02 15 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны фільм. 11 00 Мультсерыял. 11 30 Праграма па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Гэта цудоўная сямейка". Серыял вытв. Францыі. 15 10 Тэлечасопіс. 15 50 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 05 Жывёлы вакол нас. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Сервял вытв. Канады. 18 00 Біяграфіі. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Тэлетурнір. 20 35 Мультсерыял. 20 55 Музычны фільм. 22 00 Панарама. 22 35 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 "Радыёраманс'. Серыял вытв. Польшчы. 23 35 Опера-араторыя. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Тэлечасопіс.

### ЧАЦВЕР, 8.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 05 "Дзіцячае аддзяленне". Серыял вытв. Англіі. 09 30 Для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Кулінарная праграма. 12 30 Чвэрць гадзіны на экране. 12 45 Жыць бяспечней. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 40 Жывёлы свету. 14 05 Ня толькі дыназаўры. 14 20 Здароўе. 14 40 Жывёлы свету. 15 10 Тэлечасопіс. 15 30 Кліпер. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для маладых гледачоў. 17 00 Праграма для моладзі. 17 25 Мультфільм. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір. 18 40 Кіначасопіс. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Каталіцкая праграма. 20 00 Вечарынка 20 30 Навіны. 21 10 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Толькі ў першай праграме. 22 45 Сатырычная праграма. 23 00 Урадавы часопіс. 23 10 Тэлечасопіс. 23 25 Пегас. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 25 Дакументальны фільм. 00 50 "Парыжская тэлестанцыя". Фільм вытв. Германіі. 02 20 Рэпартаж.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 35 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны фільм. 11 00 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 11 30 Праграма па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Напалеон". Серыял вытв. Францыі. 15 20 Тэлечасопіс. 15 55 Прывітанне. 16 00 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 16 30 Спартыўная студыя. 17 05 Экалагічны часопіс. 17 30 "Каханне і дыпламатыя". Серыял вытв. Канады. 18 00 Праграма аб ансамбле. 18 20 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Кола фартуны. 20 35 Над возерам. 21 00 Спартыўная студыя. 22 00 Панарама. 22 35 Аўтачасопіс. 23 00 "Як справіцца з высокімі коштамі". Фільм вытв. ЗША. 00 45 Фестываль. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная праграма. 01 15 Арт-ноч.

### ПЯТНІЦА, 9.09

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 Тэленавэла. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 11 00 "Маладыя ўсаднікі". Фільм вытв. ЗША. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Тэлечасопіс. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 45 Якая школа? 13 50 Кропля вады. 14 30 Адкрыць сябе. 15 15 Калі не Оксфард, дык што? 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычны тэлетурнір. 16 30 Фестываль танца. 17 00 Тэленавэла. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлечасопіс. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлечасопіс спажыўцоў. 19 00 Спадканне "у цёмную". 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Музычная камедыя вытв. ЗША. 23 00 Пульс дня. 23 15 Забаўляльная праграма. 23 30 Справа для рэпарцёра. 00 00 Навіны. 00 15 Забаўляльная праграма. 00 45 Мастацкі фільм. 02 25 Фестываль танца.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Востраў драконаў. 11 00 Мультфільм. 11 30 Праграма па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 Серыял вытв. ЗША. 15 20 Тэлечасопіс. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "Здроўка". Серыял вытв. ЗША. 18 00 Прафесія - аматар. 18 30 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 05 Адзін з дзесяці. 20 35 Музычная праграма. 21 00 Публіцыстычная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Спісы памяці. 22 40 Сатырычная праграма. 23 00 "Наркотыкавыя войны". Серыял вытв. ЗША. 00 30 Музычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Забаўляльная праграма.

### СУБОТА, 10.09

**ПРАГРАМА 1**

08 00 Сельскагаспадарчыя праграмы. 09 05 Усё аб агародзе. 09 30 Спартыўны часопіс. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Падводная адысея капітана Кусто. 13 00 Навіны. 13 10 Тэлечасопіс. 14 00 Мультфільмы Дыснея. 15 20 Фрагменты спектакля. 16 30 Жывёлы свету. 16 55 Блізкія сустрэчы. 17 30 "Бруклінскі мост". Серыял. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Сатырычная праграма. 18 30 Забаўляльная праграма. 19 05 "Падабраная пара". Серыял вытв. Польшчы. 20 00 Дзіцячы тэлечасопіс. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "FX". Фільм вытв. ЗША. 23 10 Сантыменты. 00 00 Навіны. 00 10 Спартыўная субота. 01 00 "Сіцыліяц". Фільм вытв. ЗША. 03 20 "Пейзаж з рамонкамі". Серыял вытв. Англіі. 04 15 Лета ў Монтэ-Карла.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Раніца. 08 30 Такія адзінокія. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Таварыства ў культуры. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Арміі свету. 11 30 Праграма пра жывёл. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 14 50 Студыя другой праграмы. 15 00 Спартыўная студыя. 15 30 Жыццё побач з намі. 16 00 Апетыт. 16 40 Прывітанне. 16 45 Тэленавэла. 17 00 Серыял вытв. ЗША. 17 30 У цяні зорак. 18 00 Тэлетурнір. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Семь дзён - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 30 Дзірка ў кошыку. 21 00 Тэлечасопіс. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Хімера. 23 05 "Коннік". Вестэрн вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя.

### НЯДЗЕЛЯ, 11.09

**ПРАГРАМА 1**

08 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 30 Серыял вытв. Канады. 11 15 Тэлетеатр для дзяцей. 12 00 Навіны. 12 10 Медыцына. 13 15 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 45 З камерай сярод жывёл. 14 00 Квант. 14 20 Падарожжы. 14 55 У старым кіно. 16 10 Музычная праграма. 16 30 Ён ці хто? 17 00 Забаўляльная праграма. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Можна пасмяяцца. 18 45 Забаўляльная праграма. 19 05 "Дынастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Дачка сенатара". Серыял вытв. Канады. 22 05 Спортыўная надзеля. 22 35 Міжнародная публіцыстыка. 23 20 Забаўляльнакя праграма. 00 15 "Паліцэйскія". Фільм вытв. ЗША. 01 45 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 20 Слова на нядзелю. 09 25 Прывітанне. 09 30 Рэпартаж. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Аўтапартрэт. 12 00 Серыял для дзяцей. 13 00 "Фанфан Цюльпан". Фільм вытв. Францыі. 14 35 Дакументальны фільм. 15 00 Вандроўка ў часе і прасторы. 15 55 Тэлежурнал. 16 00 Тэлетэатр для дзяцей. 17 00 Спартыўная студыя. 18 00 Серыял вытв. ЗША. 18 30 Канцэрт. 19 00 Падзеі тыдня. 19 25 Спартыўная субота. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Спецыяльная лінія. 22 00 Панарама. 22 30 Канцэрт. 23 20 "Вялікія батал'ёны". Серыял вытв. Англіі. 00 10 Тэлетэатр. 01 15 Панарама. 01 20 Спартыўная студыя.

